www.nv-online.info

№ 65 (4010)

21 жніўня 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**Вам трэба працягнуць падпіску на "Народную Волю"? Зрабіце гэта да 26 жніўня, тады з 1 верасня Вы будзеце атрымліваць нашу газету.**

СКАНДАЛ

## Жнівень. Час пасадак?

***Затрыманы вядомы бізнесмен Уладзімір Япрынцаў і яго сын Казбек.***

Грамадскасць яшчэ працягвае абмяркоўваць гучную справу былога выконваючага абавязкі генеральнага дырэктара хакейнага мінскага "Дынама" **Уладзіміра Беражкова**, якога затрымалі на мінулым тыдні, як падаспеў чарговы скандал – маўляў, затрыманы адзін з саўладальнікаў кампаніі «Трайпл», кіраўнік федэрацыі самба і дзюдо, адзін з кіраўнікоў футбольнага «Дынама» (Мінск) **Уладзімір Япрынцаў** (на фота ў цэнтры). Паведамлялася таксама, што КДБ арыштаваў маёмасць бізнесмена.

Да слова, гэтая інфармацыя паступіла ў рэдакцыю яшчэ ў панядзелак, але пацвярджэння ёй не было. Ужо на той момант мабільны тэлефон Уладзіміра Генадзьевіча не адказваў, пры гэтым афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта **Юлія Ганчарова** паведаміла "Народнай Волі", што іх ведамства *"не валодае інфармацыяй пра затрыманне Япрынцава"*.

Не з'явілася з гэтай нагоды афіцыйных каментарыяў і ўчора. Затое інтэрнэт-партал tribuna.com са спасылкай на свае крыніцы паведаміў, што затрыманы не толькі спадар Япрынцаў, але і яго сын Казбек. Апошні з'яўляецца сузаснавальнікам IT-кампаніі «Ямікс Груп», якая займаецца распрацоўкай уласных інтэрнэт-праектаў, а таксама працаваў адным з менеджараў у кампаніі «Трайпл».

Тым часам адзін з заснавальнікаў «Джаспэн Кэпітал Партнэрс» **Пётр Спатар** у каментарыі tut.by заявіў наступнае: *"Наколькі мы ведаем, абодва Япрынцавы затрыманы, і, паводле нашай інфармацыі, часткова гэта можа быць звязана з нашай справай"*.

Паводле яго слоў, у бліжэйшы месяц кампанія збіраецца падаць на "Трайпл" іск у Лонданскі суд. Гэтая справа – тэма для асобнай размовы, але ў канфліктнай сітуацыі фігурыруюць таксама сын і бацька Япрынцавы.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**



*Уладзімір ЯПРЫНЦАЎ:*

## «Ведаю многіх фізічна моцных людзей, якіх ламала жыццё»

*У адным з інтэрв'ю бізнесмен распавёў, як ён пачынаў свой бізнес і якія сёння ў яго прыярытэты ў жыцці.*

– Дываны, лямпачкі, запалкі, віно – чаго толькі не было, – расказваў Уладзімір Генадзьевіч. – З алкаголем складаней усяго прыходзілася. На фуры, якія яго перавозілі, больш за ўсё "наязджалі" ў ліхія, як цяпер кажуць, 90-я. Неяк прыехалі з трыма машынамі ў Маскву, сядзім на вуліцы Рабінінскай з вадзіцелямі, снедаем... Падыходзяць чацвёра моцных хлопцаў. "Вітаем, чые фуры?» – «Мае», – паказваю ім дакументы. «Добра, а хто філкі плаціць будзе?" А я нават слова такога не ведаю і наогул не разумею 50 працэнтаў з таго, што яны на сваёй "фені" кажуць. Хоць агульная карціна зразумелая: патрабуюць па тры тысячы долараў з кожнага транспартнага сродку. А гэта, як кажуць, поўны прыплыў, таму што мы самі суму ўдвая меншую зарабляем. Ніякага іншага выйсця няма, акрамя як прапанаваць самаму здароваму з іх: "Калі мужчына, пагутарым адзін на адзін". Ну, слова за слова, звярнулі яны ўвагу на мае паламаныя вушы. "Ты што, барэц?" – "Самбіст". – "А такога ведаеш?" – "Так, ведаю, ён з клуба "Самба-70". – "Ну добра, сам ты хто?" – "Я, на ўсялякі выпадак, чэмпіён свету". На вечар "забіваецца стрэлка". Прыходзіць чалавек, з якім не адзін год трэніраваўся ў зборнай Саюза, і, зразумела, ад канфлікту не застаецца і следу.

– ...Жыццё – гэта не спорт. Даволі неразумна спаборнічаць з кімсьці гэтак жа, як было раней на барцоўскім дыване. Сёння я хачу быць моцным для сябе. Чалавек ніколі не ведае сваіх здольнасцяў і таго, як можа павесці сябе ў непрадбачанай сітуацыі. Ведаю вельмі шмат фізічна моцных людзей, якіх ламала жыццё. Дух заўсёды мацнейшы за мышцы, а вера творыць цуды.

ЛИЧНОЕ МНЕНИЕ



*Сергей НЕРОВНЫЙ*

## Отсчет

*Коней на переправе не меняют, а ослов можно и нужно менять.*

**Александр Лебедь**

Ну, вот и разворачивается вовсю очередная политическая кампания – президентские выборы. Если пристально посмотреть, то речь, скорее всего, идет о переизбрании на пост главы государства неувядаемого и незаменимого Александра Григорьевича Лукашенко. Знатного экономиста, литературоведа и историка, опытного политика. Проходит кампания под лозунгом «Войны в Беларуси не будет!». Но у меня лично возникает вопрос: будет ли при этом мир? Как бы не получилось так, что у нас со временем не будет ни того, ни другого.

Можно ли назвать мирной страну, в которой закрываются предприятия, а те, которые еще работают, выпускают продукцию на склад? Если заработок не позволяет обеспечить семье нормальную жизнь, а чиновники в качестве выхода из такого положения предлагают искать вторую работу? Если невозможно добиться правды ни в милиции, ни в прокуратуре, ни в суде, ни у чиновников? Если люди не знают фамилий якобы избранных с 80%-ным результатом депутатов? Если провалившие свою работу руководители пересаживаются в другие уютные кресла? Если очередь к врачу порой напоминает очередь за колбасой в советские времена? Если твой голос на выборах воруют назначенные властью счетчики? Это ли мир?

Независимая социология сообщает, что рейтинг А.Лукашенко довольно высок – 38,6% (данные июня этого года). Оппозиционер Н.Статкевич, второй в списке, имеет только 5%. К тому же находится в тюрьме.

Казалось бы, такой мощный лидер, такая сильная власть, такие беззубые и маргинальные оппозиционеры... Но такая могучая власть боится дать кричевской негосударственной газете «Вольны горад» путевку в свободное плавание – то есть официальную регистрацию. Боится пригласить журналистов на «круглый стол», в координационный совет, включить в состав какой-нибудь участковой комиссии. А можно было бы пригласить и на телевидение. Ведь даже АГ както признавался, что не все оппозиционеры плохие. Так в чем же дело? Политическая мощь власти надута районными газетами типа нашей «Кричевской жизни», столичными госСМИ и телевидением? А серость и глупость при этом спрятаны под идеологическими масками.

Выборы – благодатное время для райисполкомов. Организовать нужные цифры – это несложно. Это не экономику выстраивать, не искать неуловимых инвесторов, не закреплять в районе врачей и других специалистов. Процедура отработана, кадры имеются. Нужно 80%? Не вопрос – дадим 90%. Александр Григорьевич потом сам понизит, если перегнем палку. «Пятая колонна», если будет мешать честному подсчету голосов, пойдет на нары. За этим присмотрит наш «зоркий глаз» из конторы глубокого бурения.

Любопытно, что многие люди не верят, что А.Лукашенко пробыл у власти больше лидера застойного периода СССР Л.Брежнева. Сам видел ролик с опросом на улицах одного из городов Беларуси.

Генсек Брежнев правил «всего» 18 лет, а АГ – уже 21. Еще чуть-чуть – и рухнет сталинский рекорд. Потом что, настанет очередь Кастро и Каддафи?

К сожалению, не все понимают опасность подхода «коней на переправе не меняют». Переправа-то у нас, я считаю, искусственно затянулась. Мы не на реке Амазонке, дальний берег которой не рассмотришь даже в хорошую погоду. Шире полукилометровых Днепра и Припяти в Беларуси рек нет. Так что, на мой взгляд, «коника» пора бы и заменить. Чтобы не забронзовел, как говаривал российский премьер Д.Медведев. Это он так дипломатично сказал, а реально имел в виду – чтобы не впал в маразм. А начнет впадать – соратники мигом организуют заговор, как уже было в недавней советской истории. Наследники большевиков были большие мастера по этой части. Любили они менять плохих вождей на хороших. Доменялись – и коммунизм не построили, и страна развалилась.

Войны, конечно, не хочет никто. Любой агрессор удовольствуется захватом чужой территории без единого выстрела. Так сказать, мирным путем. Но если мы хотим, чтобы наше государство было действительно устойчивым и развитым, то должны научиться менять своих правителей. Менять без жалости и в назидание другим. В тех государствах, граждане которых научились менять своих правителей без страха и согласно закону, уровень жизни растет. И растет за счет роста производительности труда, а не за счет продажи данных Богом полезных ископаемых на мировом рынке или кредитов.

Если же мы не будем менять правителей, рано или поздно они заменят всех нас. Заменят народ на безмолвный электорат. Процесс этот, кажется, уже идет.

*г.Кричев.*

ЧУЛІ?

## Мінгарвыканкам закупляе пазалочаны посуд

***Кошт камплекту складае каля 5 мільярдаў рублёў. Сёння за такія грошы можна набыць шыкоўны катэдж пад Мінскам альбо дзве трохпакаёўкі прэміум-класа.***

Аб'яву на закупку камплекту посуду размясціла на сайце дзяржзакупак Упраўленне капітальнага будаўніцтва Мінгарвыканкама, крыніца фінансавання – мясцовы бюджэт.

Заяўленая сума для набыцця посуду – 4.864.746.072 беларускія рублі, на момант падачы аб'явы (15 ліпеня) гэта было каля 317 тысяч долараў, цяпер сума складае 294 тысячы долараў.

За гэтыя грошы Мінгарвыканкам плануе набыць адзін камплект сталовага посуду, які мусіць утрымліваць выгнуты 3D-малюнак, выкананы золатам.

АРМІЯ

## Ваенным будуць даплачваць за працягнутыя кантракты

***Пры гэтым яны павінны праслужыць па кантракце не менеей за пяць гадоў. У тэрмін кантрактнай службы не ўваходзяць перыяды навучання на вочнай форме адукацыі. Узнагароджанне можа складаць дзясяткі мільёнаў.***

Адпаведная норма прапісана ва ўказе №355 ад 17 жніўня "Аб захадах стымулявання ваенных і супрацоўнікаў ваенізаваных арганізацый".

Калі кантракт заключаецца або працягваецца на тэрмін ад трох да пяці год, узнагароджанне складзе 10 базавых акладаў. Тым, хто заключыць або працягне кантракт на пяць гадоў і болей, выплацяць 35 базавых акладаў. Дарэчы, па некаторых дадзеных, базавы аклад падпалкоўніка, які праслужыў 5 гадоў і працуе па кантракце ў рэгулярнай беларускай арміі, складае каля 5 мільёнаў рублёў. Не атрымаюць узнагароджанне супрацоўнікі органаў унутраных спраў, Следчага камітэта, Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз, органаў фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржкантролю і супрацоўнікаў МНС.

ВЫБАРЫ-2015

## Пралёт

*Сёння, 21 жніўня, апошні дзень збору подпісаў за вылучэнне кандыдатаў на пасаду прэзідэнта Беларусі.*

Але ўжо зараз відавочна, што ў выбарчых бюлетэнях не будзе прозвішчаў некаторых прэтэндэнтаў. Відаць па ўсім, не змаглі сабраць патрэбныя сто тысяч подпісаў лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька і старшыня партыі «Справядлівы свет» Сяргей Калякін.

Чаму кампанію па зборы подпісаў апазіцыянеры правалілі? У чым прычына таго, што іх не падтрымала грамадства? Няўжо прозвішча Лябедзька менш пазнавальнае ў масах, чым прозвішча Цярэшчанкі ці Гайдукевіча?

«Народная Воля» задала гэтыя пытанні Анатолю Лябедзьку і Сяргею Калякіну.

### *Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА:* «Гэта праблема ўлады»

**– Анатоль Уладзіміравіч, вам не крыўдна, што неабходнай колькасці подпісаў вашым валанцёрам сабраць не ўдалося?**

– Не, мне абсалютна не крыўдна.

**– Патлумачце чаму?**

– Дзіўна, што журналісты нас не чуюць. Яшчэ на пачатку кампаніі мы заяўлялі, што наша асноўная мэта – гэта данесці людзям альтэрнатыву і паказаць, што выбараў з сумленным падлікам галасоў у Беларусі няма, бо ўладаператварыла выбарчыя кампаніі ў абсурд. Умоўна кажучы, людзі ставілі подпіс не за маё вылучэнне, а ў падтрымку нашай эканамічнай праграмы «Мільён новых працоўных месцаў для Беларусі». Калі б сапраўдныя выбары ў Беларусі былі, мы б распляскаліся ў блін, але сабралі б гэтыя подпісы.

**– А ці не азначае такі вынік, што беларуская апазіцыя бездапаможная і ў яе няма падтрымкі ў грамадстве?**

– Не, я так не лічу. За час збору подпісаў мы дасягнулі яшчэ адной мэты – пашырылі кола палітычна актыўных людзей. Не сакрэт, што новыя людзі не вельмі ахвотна прыходзяць у апазіцыю, а мы сваёй кампаніяй паказалі – альтэрнатыва ёсць. Скажу вам шчыра, асабіста я ўжо на трэці дзень падпіснай кампаніі ведаў: майго прозвішча ў бюлетэні ў дзень галасавання не будзе, бо гэта неістотна, бо празрыстых выбараў у краіне няма. І гэта не праблема апазіцыі, гэта праблема ўлады. Людзі не вераць, што праз выбары можна нешта змяніць, у людзей не гараць вочы. Калі ў 2010 годзе грамадская актыўнасць была навідавоку, то сёлета гэтага няма. І з кожным днём, з кожным годам пры існуючым стане рэчаў гэтая апатыя будзе нарастаць.

Для АГП кампанія не скончыцца 21 жніўня. Так, падчас кампаніі па зборы подпісаў у нас быў своеасаблівы імунітэт, пасля яго не будзе, але, нягледзячы на гэта, мы так, як і раней, будзем ісці да людзей, распавядаючы пра альтэрнатыву.

### *Сяргей КАЛЯКІН:* «А я не ведаю»

Старшыня партыі «Справядлівы свет» Сяргей Калякін адказваць на пытанні журналіста "Народнай Волі" не захацеў.

– А я не ведаю, сабраў я подпісы ці не. Мы правядзём прэс-канферэнцыю, прыходзьце, там пра ўсё і даведаецеся.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

РЭГІЁН

## «Я за вас падпішуся, але не веру, што пераможаце...»

*У мінулую сераду прэтэндэнт на пасаду прэзідэнта краіны Таццяна Караткевіч сустракалася з жыхарамі Полацка.*

Пікет у падтрымку Таццяны Караткевіч размясціўся ля гарадскога Дома гандлю. Нягледзячы на працоўны дзень, жадаючых падтрымаць прэтэндэнтку на прэзідэнцкую пасаду знайшлося нямала. За некалькі гадзін ініцыятыўная група Таццяны Караткевіч сабрала каля ста подпісаў.

– *Тэндэнцыя збору подпісаў у сталіцы і па рэгіёнах адна – многія людзі баяцца,* – распавяла Таццяна Караткевіч "Народнай Волі". – *Страх прысутнічае, некаторыя аглядаюцца, але падпісваюцца. І пенсіянеры, і моладзь разумеюць, што патрэбны перамены...*

У першую чаргу людзей хвалявала эканамічная сітуацыя ў краіне. Пенсіянеры скардзіліся на маленькія пенсіі і дарагія лекі, рабочыя – на нізкія заробкі і высокія цэны ў крамах.

– *Амаль палову пенсіі я пакідаю ў аптэцы,* – кажа пенсіянерка Ніна Міхайлаўна. – *Дзякуй Богу, дзеці дапамагаюць. І падпісалася, і прагаласую за Таццяну Караткевіч. Люблю яе! Я сваё жыццё пражыла, але ў мяне шмат унукаў, хачу, каб у іх была годная будучыня...*

У час сустрэчы з жыхарамі Полацка не абышлося і без вострых пытанняў. Так, жанчына сярэдніх гадоў рэзка спытала: чаму кандыдаты з'яўляюцца толькі падчас выбарчай кампаніі, маўляў, ці не позна ўжо нешта мяняць у краіне?

– *У нас няроўныя ўмовы для працы грамадскіх актывістаў у параўнанні з дзяржаўнымі,* – адказала Караткевіч. – *Выбары яшчэ не прайшлі, я тут, перад вамі. Калі думаць, што ўжо позна, то нам усім трэба сабраць чамаданы і з'ехаць. Зрабіць з Беларусі дом ветэранаў!*

У гутарцы з гараджанамі Караткевіч адзначала, што мясцовая ўлада павінна выбірацца, а не прызначацца. Закранула пытанні аб якасці адукацыі і медыцынскага абслугоўвання насельніцтва. Многія падыходзілі, падпісваліся і жадалі перамогі на выбарах. Вось толькі ўпэўненасці ў голасе палачан было няшмат.

– *Я за вас падпішуся, але не веру, што пераможаце,* – сказала жанчына з дзіцём у калясцы.

Таксама людзей цікавіла, ці будзе Таццяна Караткевіч здымаць сваю кандыдатуру з выбараў?

– *Я не магу падвесці тых, каму кажу, што мы будзем змагацца да таго моманту, пакуль у краіне не пачнуцца мірныя перамены,* – адказала Караткевіч жыхарам Полацка. – *Людзі чакаюць лепшага, і, умоўна кажучы, паміж намі дасягнута пагадненне – я кандыдат, якога падтрымліваюць.*



Наступным месцам сустрэчы Караткевіч з патэнцыяльнымі выбаршчыкамі стала прахадная завода "Полацк-Шкловалакно".

Праўда, ажыятажу, як каля гандлёвага цэнтра, на тэрыторыі прадпрыемства не назіралася. Рабочыя, якія спяшаліся дадому пасля змены, хуткім крокам абыходзілі пікет у падтрымку жанчыны-кандыдата. Спробы Таццяны Караткевіч паразмаўляць з людзьмі ў першыя хвіліны пасля прыезду выніку не далі. Завадчане праходзілі міма, а на прапанову падпісацца коратка адказвалі: *"Мы ўжо падпісаліся"*.

– *Уражанне складанае,* – кажа Таццяна Караткевіч ля прахадной завода. – *Рабочыя бягуць... Але такая сітуацыя не толькі ў Полацку. Спачатку людзі глядзяць на цябе, як на чужынца, а потым адаптуюцца.*

Але ўжо праз некаторы час знайшліся першыя жадаючыя паразмаўляць і паставіць подпісы. Пытанні ў людзей аднолькавыя: заробак, платная адукацыя, шанцы на перамогу ў выбарах...

Адзін з працаўнікоў прадпрыемства пацікавіўся, колькі дзяржаўных моў будзе ў Беларусі ў выпадку прыходу Караткевіч да ўлады.

– *Становішча беларускай мовы, безумоўна, вельмі важнае пытанне,* – адказала Таццяна Караткевіч. – *Але радыкальных мер не будзе. Усё будзе добраахвотна і паслядоўна.*

Нягледзячы на пасіўнасць і напалоханасць завадчан, свае подпісы ў падтрымку Караткевіч паставілі больш за дзясятак чалавек.

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**
**Фота аўтара.**

З НАГОДЫ

## Ірына Вештард прачытала лекцыю Таццяне Караткевіч

Прэс-служба Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) распаўсюдзіла адказы старшыні БСДП Ірыны Вештард на многія пытанні, якія тычацца прэтэндэнта на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Таццяны Караткевіч.

Апошняя выказала прэтэнзіі: чаму БСДП не падтрымлівае яе вылучэнне на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь? Вось што адказала І.Вештард:

– Рашэнне аб падтрымцы кандыдатуры Таццяны Караткевіч Цэнтральны камітэт партыі не прыняў. Некалькі сябраў ЦК, бачачы, што яе могуць падтрымаць з грубым парушэннем статута БСДП, проста пакінулі пасяджэнне. Я таксама была супраць падтрымкі яе кандыдатуры, бо ні ЦК, ні прэзідыум партыі не маюць права вырашаць пытанне аб падтрымцы ці непадтрымцы прэзідэнцкіх абміцый таго ці іншага грамадзяніна. Такое рашэнне мае права прымаць толькі з'езд партыі. І толькі тайным галасаваннем. Гэта статутная норма.

Таццяна Караткевіч некалі працавала ў Педагагічным універсітэце і, мабыць, сама чытала лекцыі. Але такой лекцыі, якую ёй прачытала Ірына Вештард, яна, хутчэй за ўсё, не чакала. Старшыня БСДП, можна сказаць, на пальцах патлумачыла ёй, чаму яе прэтэнзіі да партыі не маюць ніякай падставы. Як і тое, ці можа яна, Таццяна Караткевіч, прэтэндаваць на пасаду старшыні БСДП... Адказваючы на гэтае пытанне, І.Вештард заўважыла:

– Прэтэндаваць Таццяна можа, як і кожны іншы сябар партыі. Але ж яна не была кіраўніком раённай, гарадской, абласной арганізацыі. У снежні мінулага года яна адмовілася ўвайсці ў склад ЦК, хоць ёй гэта прапаноўвалі. Яна цалкам аддалася працы ў "Гавары праўду!", а цяпер захоча стаць старшынёй БСДП? Няхай. Я не трымаюся за сваю пасаду, аднак я даражу партыяй і хачу, каб БСДП і далей заставалася паўнавартасным суб'ектам дэмакратычнай апазіцыі.

Поўны тэкст, у якім І.Вештард расставіла кропкі над "і" ў спрэчных момантах, якія выклікаюць цікавасць і пытанні як у дэмакратычным асяродку, так і па-за ім, чытайце на сайце "Народнай Волі".

**Святлана КАРАЛЬКОВА.**

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

## Русіфікацыя павінна быць спынена раз і назаўсёды

Менавіта так павінен быць сфармуляваны сказ у першым абзацы чацвёртай калонкі ліста прафесара Міколы Савіцкага "Спыніць татальную русіфікацыю і асіміляцыю беларускага народа павінен сам Лукашэнка" ("Народная Воля", 14.08.2015). На жаль, замест слова "русіфікацыю" выпадкова ўкралася слова "дэрусіфікацыю", што скажае сэнс думкі аўтара.

Выпраўляючы недарэчную памылку, рэдакцыя просіць прабачэння ў чытачоў.

